ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ ЦАНА — PRICE ¢ 50

# Беларус

BIELARUS — BYELORUSSIAN NEWSPAPER IN THE FREE WORLD
POST ADDRESS: BIELARUS. P. O. BOX 109. JAMAICA, N. Y. 11431. Tel.: (212) 380-2036

Год XXIV, № 212 New York, December — Сьнежань 1974 Vol. XXIV, № 212




## ПЕРАДСЬВЯТНІЯ РАЗВАЖАНЬНІ

Набліжаюцца Каляды, а за імі ўсьлед пачатак наступнага году, дык ізноў мы ў пасьпеху, каб за тую крыху вольнага часу, што застаецца пасьля працы, ухадзіцца з усімі перадсьвятнімі прыгатаваньнямі.

Таму-ж, пэўна, ня шмат ахвоты ў нас да разважаньняў і, калі-б ня мелі яны дачыненьня якраз да найбольшых у годзе сьвятаў, я й не адважыўся-б турбаваць Вас гэтаю парою.

А разважыць трэба было нам ужо ці цепярся колькі справаў або пытаньняў, праз якія дазвольце й пачаць:

Першае: — Выказваем мы сваяком, прыяцелям ды знаёмым нашыя найлепшыя сьвяточныя пажаданьні навычнымі выслоўямі: „Вясёлых Калядаў!" і „Шчасьлівага Новага Году!" І хоць нашыя думкі запраўды добрыя й шчырыя, губляюць яны шмат свае якасьці праз заганную мову, бо, калі задумацца над першай фразай, дык весялосьць выклікаецца нечым сьмяшлівым або забаўным, а мы ў гэтым выпадку маем наўвеце паважнае, але й здавольнае пачуцьцё, што можна ахапіць адно словам „радасьць". Дык далей і трэба казаць ці пісаць, замiж „Вясёлых" — „Радасных Калядаў!", як гэта робіць, калі Вы зьвярнулі ўвагу, ужо другі год газэта „Беларус".

Што да „Шчасьлівага Новага Году!", дык і гэтта ня ўсё ў парадку, ды ня толькі таму, што слова „шчасьлівы" — хутчэй азначэньне таго, хто сам мае шчасьце, але не абавязкава прыносіць яго іншым, але й таму, што „новы год" папраўдзе новы адно падчас ягонае сустрэчы й на першы дзень, калі афіцыйнае сьвята, а пасьля старэе ўжо, як бач.

Бянтэжыцца аднак няма ніякае прычыны, бо беларуская мова дае магчымасьць арыгінальнага развязу ў сынанімах: на „шчасьце" — „дабро", як у матарыяльным, гэтак і духовым разуменьні, ды на „новы год" — „налецьце", або „налета", дзеля азначэньня цэлага наступнага году. Дык вось, і з гэтых двух словаў варта было-б скласьці нам запраўды нашае беларускае пажаданьне, прыкладам: „Добрага налецьця!", ці штось падобнае.

Другое: — Амаль усе хрысьціянскія народы маюць звычай абдорваньня дзяцей нейкай легэндарнай асобай, якая, аднак, гэтак ці йначай павязаная з Каляднімі Сьвятамі, прыкладам: „Крыс Кіндле", „Езічэк", „Пэр Ноэл", „Сэнта Клоз", ці ўрэшце й мо найлепш, як у нашых суседзяў балтаў — даслоўна або ў перакладзе „Дзед Каляда".

Мы-ж чамусьці пераняли ад Расейцаў „Дзеда Мароза", хоць, задумаўшыся, цяжка сталаму чалавеку, а дзіцяці й пагатове, знайсьці нешта супольнае паміж халодным і няпрыемным, хай сабе й дзедам, але ўсё-ж марозам, з радасьцяй і духовым цяплом Каляднíх Сьвятаў. Вось ля савецкае навагодняе ялінкі пэрсона Дзеда Мароза якраз і на месцы, але ў нас — ніколі.

Таму прапаную гэтта неадкладна пазбывацца гэнага замежнага гасьця, заступаючы яго свойскім ды адпаведным калядным настроям, шчодрым і добрым „Дзядулям Калядой".

Каб-жа не адкладаць гэтае зьмены да няма ведама калі, ужо ў гэтым нумары „Беларуса" знойдзеце вершык „Дзядуля Каляда" аднаго аўтара, а ў будучыні, спадзяемся, даложацца й іншыя ня скупа.

Ды трэйцяе й апошняе: — Праз цэлы год, а ў вялікія сьвяты асабліва, балюча адчуваецца ў нас нястача рэлігійных песьняў. Былі на гэта ў нашым мінулым прычыны й незалежныя ад нас, але й ня мала зусім залежных, праз якія ня месца гэтта гаварыць.

Факт застаецца фактам, што ані ў царкве, ані дома няма амаль у нас песьняў, каб зьвярнуцца, як душа жадае, з хвалою або просьбаю да Бога.

Англамоўныя народы маюць чатырыста тысяч пабожных гімнаў, Немцы восемлзесят — няўжо-ж нашыя паэты й музыкі ня створаць нам у блізкой будучыні хоць і малога, раўнуючы да пададзеных вышэй лікаў, але ўсё-ж дастатковага на мінімальныя патрэбы запасу рэлігійных сьпеваў?!

Спадзяючыся, што, калі ня ўсе, дык хоць частка думак, выказаных у перадсьвятніх разважаньнях, знойдзе сярод Вас водгук ды падтрыманьне, кончу шчырым Вам, Дарагія Чытачы, пажаданьнем:

Радасных Калядаў! Добрага Налецьця!

**Ян Баяр**

### ДОБРА НАВІНА

*Першым навіну ангел наказаў*
*Ночкай у полі ціхім пастырам:*
*„Ўстаньце, пастыры, зорка угары*
*Над Бэтлеемам так ясна гарыць;*
*Добру навіну зорка весьціць вам—*
*Сяньня радзіўся Сусьвету Ўладар!"*
*Добра навіна — сяньня Каляда,*
*Каляда ў нас, Каляда!*

*„Йдзеце па шляху вы за зоркай той,*
*Звыш над павецьцю аж стане старой;*
*Прывітайце вы ды дайце дары*
*Дзіцятку таму, што ў ясьлях ляжыць,*
*Добру навіну бо прынёс людзям*
*Там нараджоны Сусьвету Ўладар!"*
*Добра навіна — сяньня Каляда,*
*Каляда ў нас, Каляда!*

*Пастыры пайшлі, ангел як навёў,*
*Перад Бажаткам упалі чалом.*
*Дык пайдзема й мы, так, як пастыры,*
*Бога-Дзіцятка падзякай дарыць;*
*Добру навіну бо прынёс Ён нам —*
*Ўсім дасьць збаўленьне Сусьвету Ўладар!*
*Добра навіна — сяньня Каляда,*
*Каляда ў нас, Каляда!*

Да гэтага тэксту можна прытарнаваць мэлёдыю ангельскае калядкі "The First Nowel", памятаючы, што ў словах: „навіна, пастыры, ціхі", націск трэба рабіць на апошні склад. Спрабуйце!

## "19,000 У ЗАХАПЛЕНЬНІ АД ВОЛЬГІ"

Пад гэткім загалоўкам найпаважнейшая ньюёркаўская газэта „Нью Ёрк Таймс" за 16 лістапада зьмясьціла артыкул пра выступленьні савецкай гімнастычнай дружыны 15 лістапада ў Нью Ёрку.

Загадзя перад гэтым выступленьнем была праведзеная шырокая акцыя галоўнага кіраўніцтва Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскае Моладзі перад рэдакцыямі газэтаў Нью Ёрку й Нью Брансьвіку, рэдакцыямі ўсіх каналаў тэлебачаньня й радыя Нью Ёрку. У афіцыйных лістох і тэлефанічных гутарках прадстаўнікі моладзі, выказвачы сваё абурэньне з прычыны крыўдных і дыскрымінуючых Беларусаў фактаў, што амэрыканская прэса й тэлебачаньне найчасьцей называлі беларускіх гімнастак Расейкамі, настойліва прасілі, каб гэтым разам называлі іх іхным запраўдным нацыянальным імем — Беларускамі.

Але гэтым разам, падчас апошняга выступленьня савецкай дружыны гімнастых 15 лістапада, была праяўленая тэндэнцыя называць іх афіцыйным агульным дзяржаўным назовам — савецкія. Прыкладам, амэрыканскі канфэрэнсье ў часе згаданага выступленьня называў іх вылучна савецкімі, ніразу не назваўшы нікога зь іх паводля ягонае нацыянальнасьці, хоць дружына й складалася ў вялікай бальшыні з прадстаўнікоў самых розных нерасейскіх нацыянальнасьцяў.

Не зважаючы на гэтую тэндэнцыю, „Нью Ёрк Тайм", называючы ўсіх іншых удзельнікаў гімнастычнай дружыны таксама савецкімі, вылучыў толькі нашую слаўную Вольгу Корбут з Горадні й назваў яе „Беларускай Сэнсацыяй". Таксама й некаторыя газэты ў Нью Брансьвіку называлі яе Беларускай.

Больш таго! Хоць савецкая гімнастычная дружына складалася із 16-ёх дзяўчатаў і хлопцаў, больш палавіны месца ў сваім артыкуле прысьвяціў „Нью Ёрк Таймс" Вользе Корбут. Вось усе тыя словы высокага захапленьня, якія сказала амэрыканская газэта пра нашую слаўную Вольгу:

„З крыкамі захапленьня, зь якімі іншае пакаленьне сустракала Джуды Гарлянд, 19-тысячны натоўп пераважна падлеткаў вітаў апошняга вечару Вольгу Корбут ізноў у Мэдысан Сквэр Гардэне.

„Гэта была ці не найбольшая ў Задзіночаных Штатах аўдыторыя на гімнастычным паказе. Хоць блізу ўсе з савецкае зборнае каманды былі тут, спадарычна Корбут, Беларуская Сэнсацыя, была аб'ектам увагі . . .

„Гэтак апошняга вечару сп-чна Корбут гоцкала на падлозе Гардэну, устрасаючы сваймі касічкамі, выцягваючы рукі да натоўпу, дамагаючыся любасьці ад прыхільнікаў. У гэтым, выглядае, ейная прывабнасьць, што перавышае ейныя няроўныя здольнасьці.

„Часта ейныя імкненьні перавышаюць магчымасьці, і яна спатыкнецца. Яна сталася сусьветна славутай у 1972 годзе, урэшце, ня гэтулькі за свае залатыя мэдалі, колькі за сцэнку зь ейнымі сьлязьмі пасьля таго, як яна спатыкнулася . . .

„Не зважаючы, аднак, на тое, як іншыя выконвалі свае паказы, натоўп бязупынна дамагаўся сп-чны Корбут. Летась яе скрытыкавала „Комсомольская Правда", якую чытае пераважна моладзь, за праяўленьне культу асобы.

„Але ня выглядае, што гэта ейная віна. Дзевятнаццацігадовая спартсмэнка выгінае наўзад сваё цела на папярэчыне для балянсу чатырохцалёвае шырыні, творачы выгнуты масток, і натоўп шалее.

„Яна махае рукой, пасьля выкананьня нумароў, і дзесяцігадовыя дзяўчаткі крычма крычаць: „Вольга!, Вольга!"

Аж гэтулькі ў газэце „Нью Ёрк Таймс"!

Застаецца выказаць належнае прызнаньне й шчырую ўдзячнасьць нашай моладзі за ейную наважаную абароную беларускага нацыянальнага імя, за змаганьне за нашую нацыянальную годнасьць і гордасьць, што гэтым разам укаранавалася посьпехам!

## 20-Я УГОДКІ БАПЦ У КАНАДЗЕ

Увосень 1954-га году ў Беларускім Доме на Дандэс вуліцы ў Таронце пачаліся рэгулярныя багаслужбы парахвіі Сьв. Кірылы Тураўскага Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы. Настаяцелям парахвіі быў а. Міхаіл Мацукевіч, цяперашні Архіяпіскап БАПЦ Мікалай. Невялікая грамада падрастала, абжывалася із сваёй Царквой, у якой малілася да Ўсявышняга ў сваёй роднай мове.

Сёлета 9-10 лістапада Царква адсьвяткавала свае дваццатыя ўгодкі. На сьвяткаваньне прыехалі нашыя найбольш мілыя госьці — дастойнікі БАПЦ — Яго Высокапраасьвяшчэнства Уладыка Андрэй з Кліўленду, Мітрапаліт БАПЦ і Яго Высокапраасьвяшчэнства Архіяпіскап Мікалай, што на працягу апошняга году прабываў пры беларускай парахвіі БАПЦ Сьвятога Духа ў Дэтройце. Большай грамадой зьявіліся ў царкву на вуліцы Сан Кларэнс і нашыя мясцовыя суродзічы ды госьці з Кліўленду, Дэтройту, Бэры, Ашавы, Кінгстан, Садбуры й Гэмілтон. Архірэйская Багаслужба прадаўжалася ў сыботу ад гадз. 10-й раніцы. Нашага ведамага й адданага Беларуса й верніка Божага Максіма ў сыботу Дастойныя Ўладыкі высьвяцілі ў іпадыякана й рукапалажылі ў дыякана, а ў нядзелю рукапалажылі ў сьвятара. З ласкі Божай, нашая сьвятая БАПЦ здабыла яшчэ аднаго адданага слугу Божага, які, верым, зьявіцца цэнным дадаткам да пэрсаналу нашай Царквы.

У сыботу, пасьля ўрачыстай архірэйскай Багаслужбы адбыўся ў царкоўна-грамадзкай залі банкет, на якім прамаўлялі гаспадары, госьці, у тым ліку старшыні царкоўных і грамадзкіх арганізацыяў, дый Дастойныя Ўладыкі. Вечарам адбыўся баль.

Яшчэ прыгажэйшая архірэйская Багаслужба — сьв. Літургія адбылася ў нядзелю. Прыгожа сьпяваў падмацаваны гэтым разам прыежджымі гасьцямі царкоўны хор пад кіраўніцтвам сп. М. Ганька. Падчас сьв. Літургіі Уладыка Мітрапаліт узнагародзіў нашага выдатнага царкоўнага працаўніка, сп-ра М. Ганька граматай Пачэснага Парахвіяніна Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы. Мы, звычайныя вернікі, далучаемся да гэтай ацэны выдатных заслугаў сп. Ганька нашымі Дастойнымі Ўладыкамі. На Кансысторыю БАПЦ прысутныя ахвяравалі 127 дал.

Пасьля прачулага казаньня Мітрапаліта Андрэя й заканчэньня Багаслужбы адбыўся ў залі супольны абед, на якім прысутныя далей дзяліліся сваймі думкамі пра Царкву, згадвалі заслугі шматлікіх парахвіянаў, віншавалі а. Максіма, жадалі яму й герархам БАПЦ, каб плённа й доўга служылі Богу й Беларускаму Народу.

Вялікая падзяка належыцца сябром Управы Парахвіі і ўсім, што працавалі ў падрыхтоўцы ўрачыстасьцяў, гаспадыням — за добра нарыхтаваныя стравы, Дарагім Уладыкам за тое, што з такой адданасьцяй памаглі нам адсьвяткаваць важную царкоўную падзею. Айцу Максіму жадаем добрага здароўя, памыснай душпастырскай працы на многія гады. Памажы, Божа!

**К.**

### АГУЛЬНЫ ПЕРАВЫБАРНЫ СХОД АБАМ АДДЗЕЛУ Ў НЬЮ ДЖЭРЗІ

У сыботу 9 лістапада сёлета ў залі Беларускага Грамадзкага Цэнтру ў Гайлэнд Парку, Нью Джэрзі, адбыўся Агульны Перавыбарны Сход Аддзелу Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскай Моладзі ў Нью Джэрзі. Сход пачаўся малітвай настаяцеля БАПЦарквы Жыровіцкай Божай Маці ў Гайлэнд Парку а. Аляксандра. Сход віталі кароткімі прамовамі прысутныя прадстаўнікі беларускага грамадзтва Нью Джэрзі сп. сп. Ф. Родзька, П. Кулеш, П. Кажура, В. Р. Пасьля справаздачаў старшыні, сакратароў і скарбніка зь дзейнасьці Аддзелу ў мінулым годзе, Сход, на прапанову Рэвізыйнае Камісіі, прызнаў уступаючай упраўе абсалюторыюм з падзякай.

У новую ўправу Аддзелу выбраныя: за старшыню Анна Байчук, за сяброў управы: Альгерд Кажура Юрка Азарка, Люда Русак, Галіна Сільвановіч і Міхась Швэд, функцыі між якімі будуць падзеленыя пазьней. У Рэвізыйную Камісію ўвайшлі: Натальля Русак, Рагнеда Гутырчык і Ірэна Азарка.

Прысутная на Сходзе старшыня Галоўнае Ўправы АБАМ Рая Станкевіч выказала некаторыя парады што да будучай дзейнасьці Аддзелу. Сход закончыўся агульным прапяяньнем беларускага нацыянальнага гімну.

## АГУЛЬНЫ СХОД БАЗА Ў НЬЮ ДЖЭРЗІ

17 лістапада сёлета адбыўся Агульны Перавыбарны Сход Аддзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня ў Нью Джэрзі. Сход адчыніў заступнік старшыні Аддзелу Пётра Кажура й папрасіў прысутных хвілінай цішыні ўшанаваць памяць тых сяброў, што адыйшлі ў вечнасьць. У Прэзыдыюм Сходу былі выбраныя сп. Аляксандар Стагановіч за старшыню й сп. Васіль Стома за сакратара.

Пасьля справаздачаў Управы Аддзелу, Жаноцкай Сэкцыі, кальпартэра прэсы й Кантрольнай Камісіі, Сход даў старой Управе абсалюторыюм.

У новую Ўправу Аддзелу выбраныя: Сяргей Гутырчык — старшыня, Пётра Кажура — заступнік старшыні, Васіль Стома — сакратар, Янка Азарка — Скарбнік, Юрка Станкевіч — культурны рэфэрэнт і рэфэрэнт вонкавых дачыненьняў. Апрача гэтага, быў дакааптаваны ў склад Управы рэфэрэнт справаў моладзі, якім звычайна бывае старшыня Аддзелу Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскай Моладзі, у дадзеным выпадку сп-чня Анна Бойчук.

У кантрольную Камісію выбраныя: В. Р., Ніна Стома й Уладзімер Машанскі.

Сход закончыўся прапяяньнем беларускага нацыянальнага гімну.

**В. С.**

## С О Н

*Здаецца, дзень . . . А можа, ноч? . .*
*Плыву, ляту . . . У небе сьпевы . . .*
*Насустрач дзед і дзед узбоч.*
*— А вы адкуль, дзядулі, дзе вы?*

*Маўчаць дзяды. А я ізноў:*
*—Над Менскам мы. Мая Радзіма.*
*Тут жыў калісьці я, даўно.*
*Гляджу, а дзед расплыўся дымам...*

*Другі за мной. Я да яго:*
*— Пайшлі дзе-небудзь перакусім!*
*Няма тут зь мёдам пірагоў,*
*Ды люд гасьцінны ў Беларусі.*

*За стол запросяць. Пі пітво . . .*
*І ўжо падмігваюць нам чаркі.*
*— Вось „скач”... Мо хочаце „Віо”?*
*А, можа, зблыталіся маркі?*

*— Ды не маўчы, дзед, раскажы,*
*Якое нас чакае прыйсьце?*
*Як доўга будзе на крыжы*
*Брат зьнемагаць і локаць грызьці?*

*Кульнуў дзед чарак, недзе, тры*
*І доўга чмыхаў белым носам.*
*А за вакном гулі вятры*
*І зораў хор срэбрагалосы.*

*Падняўся дзед із-за стала.*
*А мо й ня дзед? . . . І кажа трэзва:*
*— Што будзе? . . . Ведае Алах . . .*
*Я-ж толькі вечнасьці адрэзак.*

*Што да гасьціннасьці — чалом!*
*У гонар мой спраўляюць балі,*
*Ды за нігодненькім сталом*
*Я не сядзеў — не запрашалі.*

*Яшчэ . . . Маскоўская зара*
*Ў маю кадэнцыю ня згасьне,*
*І Беларусь, пакутны край,*
*Ня стане жыць вальней і шчасьней.*

*Я перамог гарэлкай шок*
*І пракрычаў Сяднёва Словы:*
*— Ідзі туды, адкуль прыйшоў!*
*Які ты. Год, да д'ябла, новы?!*

*І ён пайшоў . . . А перун-джвах . . .*
*Маланка-шась у мае вочы . . .*
*І мне як грымне ў грудзі жах, —*
*Бы коршун, сон зь мяне саскочыў.*

**ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДАЎ**
**І ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА ГОДУ**
*СЯБРОМ, ЗНАЁМЫМ І ЎСЯМУ БЕЛАРУСКАМУ ГРАМАДЗТВУ*
ШЧЫРА ЖАДАЮЦЬ
**РАІСА І ВІНЦЭНТ ЖУК-ГРЫШКЕВІЧЫ**

**СЭКТАР РАДЫ БНР У НЬЮ ДЖЭРЗІ**
**вітае з КАЛЯДАМІ ўсіх сваіх Сяброў, Прыхільнікаў і ўсіх Працаўнікоў на беларускай ніве**
**ды жадае ім**
**ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА ГОДУ!**

**УПРАВА АДДЗЕЛУ БАЗА У НЬЮ ДЖЭРЗІ**
**жадае сваім Сябром і Прыхільнікам**
**ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДАЎ**
**І**
**ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА ГОДУ!**

**SCHACK'S HALL, INC.**
**УЛАСЬНІКІ БРАТЫ В. і Р. АРЦЮШЭНКІ**
жадаюць сваім кліентм
**ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДАЎ**
**І ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА ГОДУ!**

*Сьмяецца сонейка з вышынь,*
*І сьмешна мне з начных прыгодаў.*
*І рупіць крыкнуць ад душы:*
*— Суседзі-людзі, з Новым Годам!*
*Міхась Кавыль*

Чытайце, выпісвайце, пашырайце газэту Беларусаў у Вольным Сьвеце „БЕЛАРУС”

## З КАЛЯДОЮ, З НОВЫМ ГОДАМ!

З Калядою, Грамадзяне,
Й з Новым Годам прывітаньне
Ў сьвятні час, як выпадае,
Зноў Вам шчыра пасылае
Гурт Рэдакцыі працоўны
І Рэдактар сам Галоўны!
Як і ўперад, мы няйначай
Вам жадаем скрозь удачы:
Сьвяткаваць усім прыемна,
Як кахаць ,дык узаемна,
А калі хто зь некім злуе,
Хай Сьвятой Парой даруе,
Бо душа як у спакоі,
Дык і цела будзе ў згоі!
А здароўя ўсім нам трэба:
Зарабіць кавалак хлеба
Ды ўсялякага пад'едку,
А й пітва йшчэ і адзетку,
Каб і хата выглядала,
Як у іншых, ды йшчэ стала,
Як-бы здарыла парою
Нечаканае якое.
Зарабіць нам трэ старацца,
Але й нельга забывацца,
Што жывёлам мы ня роўны —
Дбаць пра чэраў адно поўны —
Быць адзеты ды пад'еты.
У жыцьці нам трэба мэты:
Каб па нас што ўсьлед астала
І нашчадкам ўспамінала,
Што зжылі наш век ня ўлегцы,
Але й мелі ўздым у сэрцы
Да Дабра ня менш багацьця,
І ня чуліся у страце,
Як у пору выпадала
Даць ахвяраў нам ня мала —
І крывёй, былі як войны,
І намогай ў час спакойны,
Каб век помны Край наш родны
Ўрэшце стаў зусім свабодны.
О, бяды мы шмат сьцярпелі,
Як гарматы йшчэ грымелі,
А калі скрозь стала ціха,
Яшчэ больш дазналі ліха:
Ў сьвету вольнага вароты
Бо ступілі, як сіроты, —
Дык заміж раскашавацца,
Давялося зноў змагацца.
Хто рабіў што, памятае,
Сьцежка як была цяжкая —
Нат здавалася парою
Мур прабіць легч галавою.
Нас ня бралі у вабдымкі
Й не сьпяшалі даць падтрымкі,
Нас за нас ня вызнавалі
Й да суседзяў заганялі.
Дык гадамі бяз упыну,
Як вады тае крапіны,
Спад якіх, на гляд памалы,
Прабівае наўскрозь скалы,
Гэтак мы ў паверы сэрцу,
Наўпярок магло здаць сэнсу,
Ня губляючы надзеі,
Ўсё рабілі, як умелі,
Абыякасьць каб прапала
Й сьвету ўрэшт пацікавала
Крыху хоць праз нас дазнацца,
Каб бясконца ня мыляцца,
Як з варожага наводу
Увайшоўшы было ў моду,
І ў карыта нас адное
Не мяшаць далей з Масквою.
Ах, цяжкая была праца
І няўцям за што хапацца,
Бо дзе глянуць было толькі —
Неруш скрозь ляжаў аднолькі.
Але рук мы не зложылі
Й нашых сілаў ня лічылі:
Дзе ўпярод нас ня пускалі,
Гаварыці сяньня сталі
І пытаць праз нашы мэты;
Ўжо ня зь іншай як плянэты
Той на сьвеце апынуўся,
Хто імя носіць Беларуса.
Палітычныя пэрсоны
Й ці адзін ужо вучоны
Беларусь праз нас пазналі
Ды прыяць ёй шчыра сталі.
Вось з таго ёсьць спадзяваньне,
Што пасадак наш ня зьвяне,
А як будзем йшчэ старацца,
Будзе ў колас налівацца.
Ды бяда, як трэ стараньня,
Часта нехаць да трываньня
Возьме тых і апануе,
Што ім крыху пашанцуе.
Гаспадар-жа ураджаю
Да жніва аж даглядае,
Збажына бо маладая
Ў шкоду верадзь прыцягае
І хто з поля адыйдзецца,
На загон, як бач, ўваб'ецца —
І з пшана, што дасьпявала,
Застаецца вельмі мала.
Так і нам, во, Грамадзяне,
Не пара на спачываньне,
Ды яшчэ вянкі ляўровы
Рана ўзьдзець нам на галовы,
Бо хоць шмат чаго зрабілі,
Але й поўна загубілі
Часу скрозь адно праз тое,
Што ў нязгодзе між сабою.
І ня мудрасьць тут якая,
Але праўда ўсім відная,
Што зрабілі-бы падвойна,
Працавалі каб супольна.
Ўспамінаць-жа пазнавата
Нязьлічоныя ўсе страты,
Што ад звадкі мы дазналі
І тых згубаў не спагналі,
Бо ня ў тайніцы нікому,
Але ўсім яны вядомы.
Ды пускаць за позна сьлёзы —
Розум час знайсьці цьвярозы
І самых сябе спытацца,
Як магло такое стацца,
Што з аднога хоць народу
Й змагары мы за свабоду
Ўпроць варожае навалы,
Край няволяй што скавала,
І ў сьвяточныя прамовы
Прысягнуцца ўсе гатовы,
Што за мэту нам сьвятую
Даць жыцьцё ўсяк не шкадуе,
Дык чаму, як мы такія
Патрыёты запраўдныя,
Не патрапім нат здабыцца,
Каб міжсобку пагадзіцца?!
Ці-ж нам праўда ня відная,
Што ўся гутарка пустая
Праз памогу ў бядзе Краю,
Як натуга прападае
Бязь ніякае карысьці
І з дармовай ненавісьці,
Заміж ворагам на страту,
Йдзе на шкоду свайму брату? —
А як брату, ня чужому,
Дык прапад найбольш самому.
Годзе, годзе агрызацца,
Ўжо пара апамятацца
І ня ў грудзі за грэх біцца,
А вакол нас падзівіцца,
Каб ня бегчы табунамі
Ўсьлеп далей з павадырамі,
Што на нашым нек падзеле
Тук на чэравах наелі
І як быццам-бы манархі,
Ці якія патрыярхі,
Не ахвочы, аж да сьмерці,
Із пасадаў сваіх зьлезьці.
А як хто дзе пачынае,
Іх што ўладзе пагражае,
Хоць з таго былі-б прыбыткі
Нашай справе, ўвачавідкі,
Як шашок, лаўбой нагнаны,
Напускаюць толькі зману,
Што на чын як зварухнуцца,
Гатавей шмат адвярнуцца.
А як довад тут, да сказу,
„Беларус” Вам для паказу:
Курс на згоду як ўзялі мы,
Дык ня толькі „Брэх з Радзімы”
Не змарудзіў аказацца,
Але й гэтта, ці аднога,
„Ўладара” ўзьняла трывога,
Ды ня ў спор каб да работы,
Але ладзіць нам байкоты.
Дык вось сяньня, Грамадзяне,
Гэтта ставім Вам пытаньне:
Ці зрабілі мы злачынства,
Рух узьняўшы да адзінства,
Ці было-б, магчыма, лепей
Нам ў падзеле жыць на векі? . . .
Пэўны мы, што ў Вас жарэе
Ў сэрцах чыста ўсіх надзея,
Што падзел на два народы
Ня трываціме заўсёды
І калісь мы між сабою
Згоднай будзем жыць сям'ёю!
Дык чаго чакаць парожна,
Як зрабіці тое можна,
Абы розум і хаценьне,
Што дасюль у лятуценьні?!
Ды якраз, во, Калядою,
І пара нам збыць благое,
Чым варожая нам сіла
Так нас хітра падзяліла,
І за Край наш у змаганьні
Йсьці ўжо шчыльнымі радамі.
І мы верым — гэтак стане! —
Ў Вас бо й нас — адно жаданьне,
Ды ў памозе ўсім на гэта
Служыць нашая газэта,
Што ня ймкне здабыць уладу,
А цярэбіць шлях да зладу.
Вось Вы гэта памятайце
І на паклёпы не зважайце,
А як шчодра памагалі,
Памагайце нам і далей!
Мы й даўжэй пісалі-б рады,
Каб друкар цярпеў адклады —
Ды ўжо час на разьвітаньне
І яшчэ раз Вам жаданьне:
Рада Коляды сустрэці
І шчасьціць хай у налецьці!

# РАДАСНЫХ КАЛЯДАЎ

**ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА 1975 ГОДУ**
**СВАЯКОМ, ПРЫЯЦЕЛЯМ, ЗНАЁМЫМ І ЎСІМ СУРОДЗІЧАМ АД ШЧЫРАГА СЭРЦА ЖАДАЮЦЬ**

*Інж. АЛЕКСЫ ПАВАЛ*
*АРСЕНЬНЕВА НАТАЛЬЛЯ*
*Мгр. АРТОН ВЕРА й МІКАЛАЙ зь ДЗЕЦЬМІ КАЦЯЙ і АНДРЭЕМ*
*Д-р БАКУНОВІЧ ЛЮДМІЛА й УЛАДЗІМЕР і ДЗЕЦІ НАТА, ВІКТАР, ПРАДСЛАВА-САФІЯ, АНЯ й АЛЬЖБЕТА*
*БАРТУЛЬ ВЕРА, ПРАНЬЦІШ, АНЯ й АНТОН*
*БЕЛАРУСКІ ВЫДАВЕЦКА-МАСТАЦКІ КЛЮБ „ПАГОНЯ”*
*БЕЛЕНІС ЛЮДВІКА і АНТОН*
*Інж. БРУЦКІ ЯНКА*
*ВЕРАБЕЙ МАРЫЯ й КАНСТАНЦІН*
*ВОЙТАНКА МАТУШКА МАРЫЯ*
*Д-р ВЯРБІЦКІ АЎГЕН зь СЯМ'ЁЙ*
*Д-р ГАЙДЭЛЬ ПЁТР із СЯМ'ЁЙ*
*ГАНЬКО МАРЫЯ й МІКОЛА*
*Др. ГРАБІНСКІ БАЛЕСЛАЎ зь СЯМ'ЁЙ*
*ГРЭБЕНЬ МІКАЛАЙ зь СЯМ'ЕИ*
*ГУТЫРЧЫК ЛІТВІНА, СЯРГЕЙ і РАГНЕДА*
*ДАНІЛОВІЧ АЛЯКСАНДРА, БРАНІСЛАЎ і ЭДЗІК*
*ДАНІЛЮК МАРЫЯ і БАРЫС зь СЯМ'ЁЙ*
*ЖЫЗЬНЕЎСКІ НІКОДЭМ і АННА зь СЯМ'ЁЙ*
*Д-р ЗАПРУДНІК ВОЛЬГА, ЯНКА, НІНА й ВЕРА*
*КАЖАН ВІТАЛЬ зь СЯМ'ЁЙ*
*Інж. КАЛОША КАНСТАНЦІН*
*КАНАРЧУК ВОЛЬГА й ЯНКА*
*КАРАНЕЎСКІ СТЭФА, ФЛЯРЫЯН, ГЭЛЯ, МІХАСЬ, ВАНДА, ЯДЗЯ, КАРАЛІНА, ДАНУСЯ й МІХАСЬ малодшы*
*КАХАНОЎСКАЯ ЯНІНА*
*КУНЦЭВІЧ МІКАЛАЙ*
*МАРКЕВІЧ АНТОН зь СЯМ'ЁЙ*
*МІЦКЕВІЧ АЛЯКСАНДАР зь СЯМ'ЁЙ*
*Д-р НАБАГЕЗ УЛАДЗІМЕР зь СЯМ'ЁЙ*
*НАЙДЗЮК ЮЗЯ, ЧАСЛАЎ, КАРНЭЛЯ, ЯДЗЯ й ВІКТАР*
*НІКАН МІКОЛА й ДЗЕЦІ*
*Інж. НОРЫК КІНУСЯ, ЛЕАНІД і ДЗЕЦІ*
*ПАШКЕВІЧ ВАЛЯ, МІХАЛ, ЭВА й ПАЎЛЮК*
*Д-р РАМУК ВЕРА, ВІТАЎТ і ДЗЕЦІ*
*РОДЗЬКА ВЕРА, ФІЛЯРЭТ зь СЯМ'ЁЙ*
*СТАГАНОВІЧ МАРЫЯ, АЛЯКСАНДАР і СЯМ'Я*
*Інж. СТАНКЕВІЧ ВЯЧАСЛАЎ зь СЯМ'ЁЙ*
*Д-р СТАНКЕВІЧ ЗІНАІДА, СТАНІСЛАЎ і РАЯ*
*СТОМА НІНА й ВАСІЛЬ*
*СТРЭЧАНЬ АНДРЭЙ зь СЯМ'ЁЙ*
*СУБОТА КАЦЯРЫНА і АДОЛЬ*
*СУРВІЛА ІВОНКА, ЯНКА й ДЗЕЦІ*
*СЬЛІЎКА ЎЛАДЗІМЕР (ВАЛОДЗЯ)*
*ТУЛЕЙКА ВОЛЬГА і МІХАСЬ*
*ШУКЕЙЛОЙЦЬ АНТОН*
*ЧАРНЭЦКІ ЯНКА й АЛЯКСАНДРА*
*ХАНЯЎКА МАРЫЯ, ЧАСЛАЎ і СЯМ'Я*

*Мастацкае афармленьне Ірэны Рагалевіч*

# ШТО ЧУВАЦЬ?

**Пачаты друк кнігі Натальлі Арсеньневае** ў выдавецтве Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва. Мяркуецца, што кніга выйдзе з друку каля сярэдзіны наступнага году. Ахвярамі й папярэдняй перадплатай на выданьне кнігі сабрана больш за 3600 даляраў.

**Сьв. пам. кн. Васіль Сьвятаполк-Мірскі** памёр на пачатку лістапада сёлета ў Мюнхэне, Нямеччына, пасьля цяжкое хваробы й ампутацыі другое нагі (адну страціў у савецкім зьняволеньні, зь якога быў выпушчаны ў сярэдзіне 1950-х гадоў).

**Беларусы Чыкага** ўзялі сёлета, як і папярэднімі гадамі, выдатны ўдзел у міжнароднай выстаўцы, што ладзіцца штагоду ў гэтым горадзе зь ініцыятывы мэра Дэйлі. Выстаўка адбылася сёлета 2-3 лістапада.

**Кніга пра Вольгу Корбут** — "Olga" — выйшла ў лёнданскім выдавецтве „Падынгтон Прэсс". Кнігу напісаў ангельскі журналісты Джастын Бічэм. Як часта бывае з заходнімі „экспэртамі", Бічэм карыстаўся часткава дапатопнымі крыніцамі інфармацыі, пішучы пра сучасную Беларусь і Горадзен, дзе жыве й вучыцца Вольга Корбут. Супраць гэтага мэтаду Бічэма войстра зарэагавала газэта „Голас Радзімы" (№ 2, кастрычнік 1974 г.,), перадрукаваўшы з маскоўскае „Литературной газеты" рэцэньзію Я. Баравога на кнігу Бічэма. Баравы, між іншага, крытыкуе Бічэма й за тое, што той назваў Беларусь „правінцыяй Расеі". I далей піша Баравы: „Наўсуперак цьверджаньням Бічэма, у горадзе (г. зн. у Горадне — Я. З.) сьвята захоўваюць культурныя традыцыі мінулага".

Хоць Бічэмава кніга, праўдападобна, зьмяшчае ў сабе шмат дэзынфармацыі, брытанскі аўтар мае ў пэўным сэньсе рацыю, называючы Горадзен расейскім правінцыйным местам. Найлепш пра гэта сьветчыць той факт, што Вольга Корбут, як і рэшта беларускіх студэнтаў Горадна, дый усяе Беларусі, ня можа здабываць вышэйшае асьветы ў сваёй роднай мове, ды чуе расейшчыну па ўсіх бюракратычных установах свайго гораду. Баравы азагаловіў сваю рэцэньзію на Бічэмаву кнігу — „Сьмярдзючая сьвечка м-ра Бічэма". Ня менш „пахучая" й сьвечка тав. Баравога.

**Беларускае Палесьсе,** на якім апошнімі гадамі знойдзеныя багатыя залежы нафты й газу, калійных соляў, гаручых сланцаў, бурага вугальля й іншых прыродных багацьцяў, паводля сучасных савецкіх плянаў мае быць меліяраванае поўнасьцяй да 1990 году. „Паводля навуковага прагнозу, — пісалася нядаўна ў менскай „Настаўніцкай газэце" (26. X. 74), — удзельная вага мэліяраваных земляў у Беларускім Палесьсі да гэнага часу складзе дзьве траціны. Яны будуць даваць палавіну ўсяго збожжа (рэспублікі), чатыры пятыя кармоў са шматгадовых траваў, траціну ўсяе бульбы". Тымчасам, аднак, гэта — адно пляны...

**Прыродны газ з савецкае Поўначы праведзены ў Беларусь.** 6 лістапада сёлета ў Менску адбыўся масавы мітынг у сувязі з заканчэньнем газаправоду Таржок — Менск — Івацэвічы. Газэта „Зьвязда" (7. XI. 74) пісала ў сувязі з гэтым: „Паток паўночнага газу пакладзе пачатак новым якасным зрухам у паліўным балянсе Беларусі, дазволіць забясьпечыць устойлівае газазабясьпечаньне яе сталіцы, дасьць магчымасьць газыфікаваць прыродным газам буйныя прамысловыя цэнтры рэспублікі—гарады Віцебск, Магілеў, Воршу, Полацак і Наваполацак, Барысаў, Жодзіна і шмат якія іншыя. Гэта створыць трывалую базу для паскоранага, інтэнсыўнага разьвіцьця важнейшых галінаў народнае гаспадаркі рэспублікі".

**Права Беларусаў аддзяліцца ад Расеі** згадвае польскі аўтар з Варшавы, (прозьвішча не пададзенае), які напісаў артыкул „Як я разумею ,Ліст да правадыроў' " (Ал. Салжаніцына). Артыкул гэты зьмешчаны ў першым нумары новага часапісу „Контынент" (пра выхад яго гл. у разьдзеле „Што чуваць?" у папярэднім нумары газэты).

**Сэрыя беларусаведных лекцыяў у Лёндане** пачалася 14 лістапада сёлета дакладам біскупа Сіповіча на тэму „Славянскія й лацінскія рукапісы пантыфікальнае літургіі сьв. Яна Залатавуснага зь 17-га ст.". Другі даклад сп. Гая Пікарды — „Антон Навіна Луцкевіч (1884-1946) і вытокі беларускага перакладу Новага Запавету й Псальмаў 1931 году" — адбудзецца 12 сьнежня. Лекцыі ладзіць лёнданскае Англа-Беларускае Таварыства.

**Беларускі народны танец Крыжачок і колькі беларускіх народных песьняў** былі ўдала выкананыя на канцэрце ведамага расейска-славянскага ансамблю імя Глінкі, што адбыўся ў Гарфілдзе, Нью Джэрзі, 9 лістапада сёлета. На канцэрце былі прысутныя й прадстаўнікі Беларускае місіі пры Арганізацыі Задзіночаных Нацыяў.

## „ЗВАЖАЙ" — НОВЫ ВЭТЭРАНСКІ ЧАСАПІС

Часапіс мае выходзіць (друкам, ілюстраваны) двойчы на год, як орган Беларускіх Вэтэранаў. Выдае яго ў Тароньце Камітэт Сувязі Былых Беларускіх Вайскоўцаў. За дэвіз часапісу ўзяты ясны й актуальны заклік Кастуся Каліноўскага: „Вацюй, народзе, за свае правы!"

Зьмест першага нумару „Зважай" (нумар датаваны лістападам 1974 г., восем старонак фармату час. „Божым Шляхам"): інфармацыя пра Першую Сусьветную Сустрэчу Беларускіх Вэтэранаў (зь ілюстрацыямі); тэксты рэзалюцыяў Сустрэчы; прамова на Сустрэчы пісьменьніка Кастуся Акулы; успаміны; нататка да пытаньня пра вайсковыя рангі; інфармацыя пра вэтэранскі сход у Кліўленьдзе; грашовая справаздача.

Рэдакцыя паведамляе: „Асноўную ўвагу часапіс будзе прысьвячаць жыцьцю беларускіх вэтэранаў на чужыне ды вайсковай гісторыі Беларусаў".

Дай Божа вытрываласьці ў цяжкай дарозе!

Адрыс рэдакцыі: KSBV.
57 Riverdale Ave.,
Toronto, Ont., M4K 1C2
Canada.

## ДЗЯДУЛЯ КАЛЯДА

*За гарамі, за марамі,*
*Дзе зямлі паўночны плеш,*
*Ў хаце ўхутанай сьнягамі*
*Дзед старэнькі там жыве.*

*Ды дзядок той ня звычайны,*
*Бо стары ужо як сьвет,*
*А яшчэ майструе дбайна*
*Бяз упыну дні усе.*

*За дзьвярмі мароз сьціскае*
*I кудосіць белы сьнег —*
*Дзед на буры не зважае,*
*Супачыць каб, не стае.*

*А работы шмат ён мае*
*Даканаць ў кароткі час —*
*Год ня зглeдзіш як мінае*
*I ў дарогу зноў пара.*

*Запрагаць аленяў ў сані*
*I зьмясьціць увесь паклад,*
*Што зрабіў за год рукамі,*
*А чаго ў яго няма:*

*Цацкі поўнымі мяхамі*
*Добрых дзетак абдарыць*
*I ласункі аж кашамі,*
*Што смачнейшых не знайсьці.*

*Так, ці сяк усё зьмяшчае*
*Ўрэшце ў сані той дзядок*
*Ды аленяў паганяе:*
*„Гэй, лятчэй, лятчэй вы, но!*

*Бо дарога ў нас даўгая,*
*За адну пасьпець каб ноч*
*Скрозь па сьвеце, дзе чакае*
*Гурт дзяціны ўжо даўно."*

*I лятуць маланкай сані*
*Над барамі й полем ўзьверх,*
*Ды ці раз ля хаты стане*
*Дзед і ўпотай увайдзе.*

*Й пад ялінку ўсе падаркі*
*За слухмянасьць для дзяцей,*
*Хто якіх за год стаў варты,*
*Справядліва пакладзе.*

*Хто быў добры — рана ўстане*
*Й знойдзе ўсё, чаго хацеў,*
*А хто прыкрыў тату й маме —*
*Хай крыўдуе на сябе.*

*Бо дзядок ўсё памятае,*
*Што за год хто нарабіў,*
*I ў Сьвятую Ноч мінае*
*Тых, хто надта быў благі.*

*Дык рабеце, дзеткі, добра,*
*Ды ня рэдка, а ўвесь час,*
*Абдарыў усіх каб шчодра*
*Й вас Дзядуля Каляда!*

*Ян Баяр*

## КАНГРЭС ПАНЯВОЛЕНЫХ НАРОДАЎ У СЫДНЭІ

6 і 7 кастрычніка сёлета адбыўся ў Сыднэі (Аўстралія) Кангрэс Паняволеных Народаў, у якім прынялі ўдзел Рады паасобных нацыянальнасьцяў з усіх штатаў Аўстраліі. У Кангрэсе прыняла вельмі актыўны ўдзел Беларуская дэлегацыя ў ліку васьмі асобаў, часта забіраючы голас у дыскусыі й ставячы канструктыўныя прапановы падчас паседжаньняў. У часе перапынкаў беларускія дэлегаты навязалі кантакты зь іншанацыянальнымі дэлегацыямі, між іншым з карэспандэнтам парыскага польскага месячніка „Культура", які абяцаў часьцей інфармаваць чытачоў пра беларускае жыцьцё на эміграцыі...

Уступнае слова на адчыненьне Кангрэсу сказаў сэнатар Лібэральнае Партыі Аўстраліі Д-р П. Баўмэ, Паляк паводля паходжаньня. Ён выказаў абурэньне й сваё асабістае, і Лібэральнае Партыі з прычыны прызнаньня ,дэ юрэ" факту захопніцтва Савецкім Саюзам у 1940 годзе трох балтыйскіх дзяржаваў — Лятувы, Латвіі й Эстоніі, а таксама запэўніў удзельнікаў Кангрэсу, што, як толькі Лібэральная Партыя прыйдзе ўзноў да ўлады (а гэта можа наступіць хутка), прызнаньне гэтае будзе адкліканае.

Спасярод іншых прамоваў на асаблівую ўвагу заслугоўвала прамова сп. Г. Мэнцінскага (Украінца), які слушна падчыркнуў, што толькі цеснае супрацоўніцтва ўсіх паняволеных народаў можа спрычыніцца да ліквідацыі Савецкага Саюзу — гэтай навачаснай турмы народаў. Прафэсар Сыднэйскага ўнівэрсытэту Д-р А. П. Кабайла, Лятувіс паводля паходжаньня, даўжэй затрымаўся над праблемай супрацоўніцтва народаў Сярэдня-Ўсходняе Эўропы ды над патрэбай утварэньня руху супраціву на акупаваных камуністымі тэрыторыях. Наапошку старшыня Згуртаваньня Эстонцаў сп-ня Т. Кроль засярэдзілася над пытаньнем моладзі. Узгадаваць моладзь у патрыятычным духу й у кірунку салідарнасьці ўсіх паняволеных народаў у змаганьні з камунізмам — гэта найважнейшае нашае заданьне, падчыркнула яна.

Кангрэс паклікаў да жыцьця тры камісіі: палітычную, арганізацыйную й моладзі, а таксама зацьвердзіў праект утварэньня Арганізацыйнае Камісіі й утварэньня супольнага ўсім нацыям Цэнтральнага Сакратарыяту, падпарадкаванага Агульнай Радзе Дэлегатаў Народаў Сярэдня-Ўсходняе Эўропы.

Кангрэс Паняволеных Народаў быў важнай падзеяй для эміграцыяў зь Сярэдня-Ўсходняе Эўропы. Ён паказаў, што ў змаганьні з камунізмам няма ніякіх разыходжаньняў паміж Паняволенымі Народамі..

**А. К-а**

*СЯМЕЙНАЯ ХРОНІКА*

### СЯРЭБРАНЫ ЮБІЛЕЙ

28 верасьня ладная колькасьць нашых суродзічаў зыйшлася ў залі БР-ГЦ у Тароньце, каб супольна й весела адзначыць Сярэбраны Юбілей сужэнства Сп-ва Сьцепановічаў. С. Кухарчык у прывітальных словах падрабязна расказаў пра прыкладнае жыцьцё Юбіляраў і іхныя заслугі перад грамадзтвам. Банкет прайшоў вельмі ўдала й весела ды закончыўся танцавальнай вечарынай. Не абыйшлося й бяз добрых дарункаў для Юбіляраў. Пра посьпех вечару парупіліся дачка Юбіляраў Крыстына й зяць Брэдлі Сымпсан.

**А. — віч.**

***

Дзень 17 жніўня быў вельмі радасным днём для Ані й Віктара Харэвічаў з Ашавы. У гэты дзень вялікая грамада суродзічаў і ня суродзічаў зблізка й здалёк зыйшліся вечарам у Славацкай залі, каб ушанаваць і абдарыць Юбіляраў, якія неразлучна й супольна прайшлі свой 25-цігадовы жыцьцёвы шлях. Вечар быў удалы й вясёлы ды закончыўся танцавальнай вечарынаю.

**А.—Віч**

## ДАЛЕЙШЫЯ АХВЯРЫ НА ФОНД БЕЛАРУСКІХ ПАДРУЧНІКАЎ

Засноўнікі й кіраўніцтва Фонду Падручнікаў пры Беларускім Інстытуце Навукі й Мастацтва ў ЗША дзякуюць сп. Юраму Жывіцы за паўторную ахвяру на Фонд у вышыні 20.00 дал., а др. Язэпу Сажычу за перасланыя 100.00 дал. Разам з папярэднімі ахвярамі, ды нарослымі працэнтамі, на коньце Фонду цяпер 2071.79 дал.

Адначасна на коньце Фонду БІНіМ у Канадзе, да 1 лістапада 1974 г., сабрана ахвяраў на суму 399.18 дал. (канадыйскіх), а на коньце друку падручніка беларускае мовы Выдавецкага камітэту ККБК (Каардынацыйнага Камітэту Беларусаў Канады) 716.12 дал. (канадыйскіх).

Агульная сума на ўсіх трох контах на пачатку лістапада с. г. — каля 3190.00 дал. Грошы гэтыя маюць быць скарыстаныя ў першую чаргу на пакрыцьцё коштаў выданьня падручніка беларускае мовы, першая частка якога ўжо выходзіць з друку.

***

У БІНіМ у Канадзе на Фонд Беларускіх падручнікаў ахвяравалі: 1. Д-р Л. Трусэвіч — $ 25, 2. сп. А. Бычко — $ 30, 3. атрымана раней — $ 345. **Разам: $ 400.**

Беспасярэдня ў „Выдавецкі Камітэт" пры ККБК у верасьні й кастрычніку прыслалі: 1. сп-ня В. Махнач — $ 200, 2. Фундацыя Пётры Крэчэўскага — $ 200, 3. інж. М. Гарошка — $ 100, 4. сп. У. Курыла — $ 50, 5. сп. А. Шукелойць — $ 50, 6. д-р В. Кіпель — $ 50, 7. д-р Л. Трусэвіч (другі раз) — $ 25, 8. д-р Я. Пятроўскі — $21, 9. д-р Р. Гарошка — $ 20. **Разам — $ 716. Усяго ў Канадзе сабрана: $ 1,116.00.**

Заснавальнікі Фонду Беларускіх Падручнікаў шчыра дзякуюць усім ахвярадаўцам.

Адрыс Выдавецкага Камітэту пры ККБК, куды можна слаць ахвяры на Фонд Беларускіх Падручнікаў, наступны:

Dr. Raisa Zuk-Hryshkevich
54 Mary Street
Barrie, Ont., Canada
L4N 1T1

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД "БЕЛАРУСА"

**За папярэдні пэрыяд (лістапад) наступілі ў касу нашае газэты падпіска й наступныя ахвяры на Выдавецкі Фонд „Беларуса":**

### I. ЗША:

**А. Прыслана беспасярэдня ў Рэдакцыю:**

| | |
|---|---|
| 1. Арсеньнева Н | $ 30.00 |
| 2. Тулейка М. | 25.00 |
| 3. Верабей К. | 20.00 |
| 4. Інж. Норык Л. | 20.00 |
| 5. Д-р Бакуновіч Ул. | 20.00 |
| 6. Артон М. | 20.00 |
| 7. Жызьнеўскі Н. | 20.00 |
| 8. П. І. | 20.00 |
| 9. Алексы П. | 20.00 |
| 10. В. і М. М. | 20.00 |
| 11. Кажан В. | 10.00 |
| 12. Шостка М. | 10.00 |
| 13. Кісель С. | 10.00 |
| 14. Корчык Р. | 10.00 |
| 15. Чарнэцкі Я. | 10.00 |
| 16. Муха Я. | 10.00 |
| 17. Нягода П. | 10.00 |
| 18. Каленік М. | 10.00 |
| 19. Кахаsucceeded | 10.00 |
| 20. Д-р Вярбіцкі А. | 10.00 |
| 21. Інж. Бруцкі Я. | 10.00 |
| 22. Лапушынскі М. | 10.00 |
| 23. Шукелойць А. | 10.00 |
| 24. Белавус Л. | 10.00 |

**Разам: $ 355.00**

**Б. Сабрана сп. А. Беленісам сярод Беларусаў Чыкага:**

| | |
|---|---|
| 1. Д-р Занкавіч А. | $ 50.00 |
| 2. Беланіс А. | 40.00 |
| 3. Чарнэцкі Я. | 20.00 |
| 4. Антонік С. | 20.00 |
| 5. Богдан В. | 10.00 |

**Разам $ 140.00**

**В. Сабрана сп. Б. Даніловічам сярод Беларусаў Нью Джэрзі:**

| | |
|---|---|
| 1. Сэктар Рады БНР у Нью Джэрзі | $ 25.00 |
| 2. Управа Аддзелу БАЗА ў Нью Джэрзі | 25.00 |
| 3. Шастак А. | 20.00 |
| 4. М. І. | 10.00 |
| 5. Субота А. | 10.00 |
| 6. Матушка Войтанка Марыя | 10.00 |
| 7. Родзька Ф. | 10.00 |
| 8. Ханяўка Ч. | 10.00 |
| 9. Даніловіч Б. | 10.00 |
| 10. Каранеўскі М. | 10.00 |
| 11. Стома В. | 10.00 |
| 12. Талмачэвец П. | 10.00 |
| 13. Сьлюўка В. | 10.00 |
| 14. Гутырчык С. | 10.00 |
| 15. Дубяга В. | 10.00 |
| 16. Стагановіч | 10.00 |
| 17. Крашын М. | 6.00 |
| 18. Ясюк Э. | 6.00 |
| 19. а. Малаток Я. | 6.00 |
| 20. а. Я. А. | 6.00 |

**Разам: $ 224.00**

**Г. Сабрана сп. Янкам Лукашэвічам сярод Беларусаў Кліўленду:**

| | |
|---|---|
| 1. Інж. Калоша К. | $ 70.00 |
| 2. П. Б. | 25.00 |
| 3. Лукашэвіч Я. (старшы) | 15.00 |
| 4. Лукашэвіч Я. (Малодшы) | 10.00 |
| 5. Ягаўдзік М. | 10.00 |
| 6. Раковіч Я. | 10.00 |
| 7. А. К. | 10.00 |
| 8. Лукашэвіч В. | 10.00 |
| 9. Дунец Ул. | 10.00 |
| 10. Яраховіч А. | 5.00 |
| 11. Кананчук Т. | 5.00 |
| 12. а. Страпко М. | 5.00 |
| 13. Ханенка Я. | 5.00 |
| 14. Калядка М. | 5.00 |
| 15. Гарох А. | 5.00 |
| 16. Лукашэвіч П. | 5.00 |
| 17. Касьпяровіч А. | 5.00 |
| 18. Яраховіч Я. | 5.00 |
| 19. Дурэйка В. | 5.00 |
| 20. Гаўрылаў М. | 5.00 |
| 21. Семянчук А. | 5.00 |
| 22. Вал. В. | 5.00 |

**Разам: $ 235.00**

### II. КАНАДА:

**А. Прыслана беспасярэдня ў Рэдакцыю:**

| | |
|---|---|
| 1. Сп-ва І. і Я. Сурвілы | $ 50.00 |
| 2. Д-р Р. і В. Жук-Грышкевічы | 25.00 |

**Разам: $ 75.00**

**Сабрана сп. А. Маркевічам:**

| | |
|---|---|
| 1. Каранеўскі К. | $ 10.00 |
| 2. Сладкоўскі Б. | 10.00 |
| 3. Мацукевіч С. | 10.00 |
| 4. Грыцук А. | 10.00 |
| 5. Касьцюкевіч В. | 10.00 |
| 6. Прыстаўка В. | 10.00 |
| 7. А. М. | 10.00 |
| 8. Стэльмашык М. | 7.00 |
| 9. Аляксеевіч М. | 6.00 |
| 10. а. Максім | 6.00 |
| 11. Варанэцкі В. | 6.00 |
| 12. Цялеш Ул. | 3.00 |
| 13. Алешка Я. | 2.00 |
| 14. Весельніцкі | 1.00 |
| 15. З прадажы | .50 |

**Разам: $ 101.50**

### III. АЎСТРАЛІЯ:

**А. Прыслана беспасярэдня ў Рэдакцыю:**

| | |
|---|---|
| 1. Пачопка П. | $ 11.52 |

**Б. Сабрана Сп-няй А. Каранеўскай сярод Беларусаў Сыднэю:**

| | |
|---|---|
| 1. Д-р Малецкі Я. | $ 10.00 |
| 2. Волк-Левановіч | 10.00 |
| 3. Антух М. | 10.00 |
| 4. Нарушэвіч С. | 10.00 |
| 5. Бакуновіч А. | 10.00 |
| 6. Волк-Левановіч А. | 10.00 |
| 7. Дэдуля Л. | 10.00 |
| 8. Мілеўскі М. | 10.00 |
| 9. Бабака М. | 7.00 |
| 10. Гавенчык Я. | 5.00 |
| 11. Лужынскі М. | 5.00 |
| 12. Левіцкі А. | 5.00 |
| 13. Сп-ня Хаванская | 6.00 |

**Разам: $108.00**
**у пераводзе на валюту ЗША $130.71**

### IV. ЗВАРОТ ЗА КЛІШЫ:

| | |
|---|---|
| 1. БАЗА, БАПЦ і БАГЦ у Кліўленьдзе | $ 40.00 |

**Усяго разам: $ 1,312.73**

**Усім тым, што прыслалі грошы, Рэдакцыйная Калегія „Беларуса" выказвае шчырае беларускай дзякуй!**

## ЛЕКЦЫІ БЕЛАРУСАВЕДЫ Ў ГАРАДЗКІМ КАЛЕДЖЫ Ў НЬЮ ЁРКУ

Ад 15 да 22 лістапада сёлета ў праграме курсу Славянская Спадчына Амэрыкі ў Гарадзкім Каледжы ў Нью Ёрку быў прачытаны цыкль лекцыяў „Беларуская Спадчына ЗША". Тэматыка лекцыяў улучала ў сябе гэткія праблемы: паасобныя стадыі й прычыны іміграцыі Беларусаў у Амэрыку; гісторыя Беларусі; Беларусь сяньня; Беларуская спадчыннасьць у культурным, сацыяльным і эканамічным жыцьці Амэрыкі. Для студэнтаў былі падрыхтаваныя адмысловыя канспэкты курсу і бібліяграфічны агляд англамоўных працаў пра Беларусь. Лектарамі курсу былі д-р Я. Запруднік і д-р В. Кіпель. Дарэчы зазначыць, што два студэнты каледжу рыхтуюць сэмінарскія працы на тэмы: „Амэрыканскі друк пра Беларусаў" і „Раньняя беларуская іміграцыя ў Амэрыку".